*Генадзь Карпенка: У канцы тунэля з'явілася святло. Чырвонае (стар. 4)*
*Куды плывуць караблі інтэграцыі (стар. 7)*

# СВАБОДА

Год заснавання 1902
Выходзіць з 1990
Галоўны рэдактар Ігар Германчук
Заснавальнік Павел Жук
Наклад 36.860
Адрас рэдакцыі:
220088, Мінск, вул.Іванаўская, 56
Тэл./факс 2 362 441

Аўторак, 13 траўня 1997 № 49 Кошт свабодны

### *Акцыя*

Мінскія ўлады дазволілі апазіцыі правесці 14 траўня ў сталіцы акцыю пратэсту супраць беларуска-расійскай інтэграцыі. Акцыя супадае з заканчэннем т.зв. усенароднага абмеркавання статута саюза Беларусі і Расіі.

Прадстаўнікі БНФ мелі намер наладзіць у гэты дзень шэсце ад плошчы Я.Коласа да плошчы Незалежнасці, аднак гарвыканкам дазволіў толькі правядзенне мітынгу ў 17:30 на плошчы Я.Коласа. Кіраўніцтва БНФ спадзяецца, што акцыя пратэсту будзе масавай і засведчыць непрыняцце значнай часткай беларускага грамадства ідэяў любой інтэграцыі з усходнім суседам.

### *Суд*

Сёння пасля 14 гадзін у Цэнтральным судзе г.Мінска запланаваны разгляд трох цікавых справаў. Будуць судзіць старшыню ВС Сямёна Шарэцкага, дэпутатаў Валерыя Шчукіна і Анатоля Лябедзьку.

### *Стыхія*

Ураганны вецер пранёсся над Віцебскай вобласцю вечарам 9 траўня. Па дадзеных МУС Беларусі, на тэрыторыі дзевяці раёнаў, найбольш пацярпелых ад стыхіі, былі пашкоджаныя дахі 270 жылых дамоў і 263 гаспадарчых пабудоваў. У выніку абрыву ліній электраперадач часова засталіся без энергіі 95 жывёлагадоўчых ферм. Чалавечых ахвяраў не зарэгістравана.

## Адвакаты «пад каўпаком»

Дзіўна, але факт: прыватная адвакацкая практыка ў Беларусі забараняецца. Такое рашэнне прыняў Лукашэнка.

Прэзідэнцкі дэкрэт № 12 «Аб некаторых мерах па ўдасканаленню адвакацкай і натарыяльнай дзейнасці», які быў апублікаваны на мінулым тыдні, абвяшчае, што *«з 1 ліпеня 1997 г. адвакацкая дзейнасць можа ажыццяўляцца толькі асобамі, якія з'яўляюцца членамі абласных (Мінскай гарадской) калегій адвакатаў».*

Акрамя таго, анулююцца ліцэнзіі ў тых адвакатаў, якія атрымалі іх падчас знаходжання на дзяржаўнай службе. Гэта значыць, што дэпутату Мечыславу Грыбу, напрыклад, альбо былому генпракурору Васілю Капітану давядзецца здаваць экзамен зноў.

Дэкрэт устанаўлівае шэраг іншых абмежаванняў. Прыпыняецца таксама (тэрмінам на адзін год) выдача ліцэнзіяў на права займацца прыватнай натарыяльнай дзейнасцю.

*(Працяг тэмы на стар.2)*

## Забаранілі спектакль пра сталіншчыну

**У райцэнтры Краснаполле Магілёўскай вобласці была забароненая прэм'ера спектакля «Канвеер», прысвечанага трагічнаму лёсу беларускага пісьменніка Васіля Шашалевіча, расстралянага ў жахлівым 1937 годзе.**

Пісьменнік быў родам з Краснаполля. Яшчэ сёння ў мястэчку жыве 83-гадовая жанчына, былая настаўніца, якая праходзіла па той жа справе, што і пісьменнік. Тады ім НКВД прышыў шпіёнскую дзейнасць і нацыяналізм. За гэта пісьменніка расстралялі, а маладую настаўніцу прыгаварылі да 10 год ГУЛАГу.

Спектакль пастаўлены заслужаным дзеячам культуры Беларусі Валянцінам Ермаловічам па п'есе магілёўскага пісьменніка Міхася Карпечанкі. Паводле словаў рэжысёра, аб прэм'еры было дамоўлена з загадчыцай аддзела культуры, але намеснік старшыні Краснапольскага райвыканкама па пытаннях ідэалогіі Фёдар Ганчароў не даў «дабро» на пастаноўку. Калі карэспандэнт СВАБОДЫ запытаўся ў Ф.Ганчарова, чым яму не падабаецца п'еса ў пастаноўцы заслужанага дзеяча культуры, той заявіў наступнае: *«Хай спачатку мне пакажуць, бо ўсё неабходна глядзець папярэдне. Вулічных музыкантаў нам не трэба! І ўвогуле, у нас ёсць свой народны тэатр, мы нікога не запрашалі».*

**Сымон ГЛАЗШТЭЙН**



## Лукашэнка трапіў у «чорны спіс»

**У Сусветны дзень свабоды прэсы, 3 траўня, Камітэт абароны журналістаў абвясціў спіс 10 галоўных ворагаў прэсы ў свеце. Сярод іх — прэзідэнт Беларусі Аляксандр Лукашэнка.**

Камітэт абароны журналістаў *(CPJ)* — міжнародная няўрадавая некамерцыйная арганізацыя, штаб-кватэра якой знаходзіцца ў Нью-Йорку. Штогод у Сусветны дзень свабоды прэсы камітэт абвяшчае «чорны спіс» палітыкаў, якія вызначыліся адкрытай варожасцю да прынцыпаў свабоды прэсы ў сваіх краінах. Па словах сп.Вільяма Орма, выканаўчага дырэктара *CPJ*, асобы, уключаныя ў спіс ворагаў прэсы, *«маюць непасрэднае дачыненне да соцень парушэнняў свабоды слова — увядзення цэнзуры, фізічнага насілля над журналістамі, арыштаў, турэмнага зняволення і нават да палітычных забойстваў».*

Самым злосным ворагам свабоды прэсы трэці год запар называецца Антар Зуарбі — лідэр алжырскай Узброенай ісламскай групы, якая з 1992 года вядзе грамадзянскую вайну супраць свецкага ўрада Алжыра. За гэты час ад рук баевікоў загінула 59 журналістаў. Далей у спісе ідуць кітайскі кіраўнік Цзян Цзэмінь, непрымірымы кубінскі рэвалюцыянер Фідэль Кастра, генерал Сані Абача — кіраўнік ваеннага рэжыму ў Нігерыі, прэм'ер-міністр Турцыі Неджметын Эрбакан.

Беларускі прэзідэнт А.Лукашэнка займае ў спісе ворагаў прэсы шостае месца. Камітэт абароны журналістаў палічыў, што Лукашэнка больш вінаваты перад прэсай і журналістамі, чым кіраўнікі Эфіопіі, Інданэзіі, Бірмы і Албаніі, якія стаяць у спісе пасля прэзідэнта Беларусі. І гэта пры тым, што, напрыклад, у Бірме генерал Тан Швэ ўвёў сапраўды драконаўскія законы, у краіне забароненыя ўсе прыватныя газеты, кожнага, хто нелегальна мае факс, чакае 15 гадоў турмы, а за выказванні, якія «могуць парушыць стабільнасць у краіне», пагражае 20 гадоў зняволення.

Камітэт абароны журналістаў — вельмі ўплывовая арганізацыя, дакументы *CPJ* вывучаюцца міжнароднымі структурамі і ўрадамі буйнейшых краін свету. Сёлетні спіс 10 ворагаў свабоды прэсы стаў тэмай спецыяльнага даклада Генеральнага сакратара ААН Кофі Анана. Так што Лукашэнка ізноў праславіўся — на гэты раз у адной кампаніі з самымі сумнавядомымі дыктатарамі свету.

**Магдалена НЕПАКАЙ**

## Саюзны статут: усё вырашыць апошні дзень

**Шлейф скандалаў і непаразуменняў стаў трывалым атрыбутам інтэграцыйных ініцыятываў Лукашэнкі.**

Раптоўны прыезд 11 траўня ў Мінск расійскай дэлегацыі на чале з віцэ-прэм'ерам расійскага ўрада Валерыем Сяровым з'яўляецца прамым вынікам распаўсюджанай 8 траўня скандальнай інфармацыі аб існаванні ў Крамлі новага праекта саюзнага статута, які перакрэслівае ўсе інтэграцыйныя ініцыятывы беларускага прэзідэнта.

Скандальная інфармацыя аб існаванні «падмётнага» статута была прывезеная ў Мінск Генадзем Зюганавым, які сустрэўся 8 траўня з Лукашэнкам. У той жа дзень на прэс-канферэнцыі адзін з паплечнікаў Зюганава — рэдактар газеты «Завтра» сп.Праханаў — на пытанне карэспандэнта СВАБОДЫ аб прадуктыўнасці сустрэчы з Лукашэнкам нечакана заявіў, што з атачэння Анатоля Чубайса ім патрапіў у рукі новы праект статута, у якім наогул адсутнічаюць палажэнні аб наднацыянальных органах саюза. Гэта, на думку Праханава, цалкам перакрэслівае ўсю канцэпцыю статута. Па словах Праханава, набліжаныя да Ельцына асобы быццам бы актыўна апрацоўваюць расійскага прэзідэнта з мэтай схіліць да чубайсаўскага варыянта статута. Новы праект перададзены Лукашэнку, і цяпер «лідэр славянства» здольны, на думку ўдзельнікаў прэс-канферэнцыі, *«больш прадуктыўна весці барацьбу з сусветным імперыялізмам, які ўступіў у змову з сусветным сіянізмам».*

Выкрывальніцтвы расійскіх камуністаў адбыліся напярэдадні візіту Лукашэнкі ва Украіну, куды ён накіраваўся ўчора. Афіцыйнай шырмай візіту з'яўляецца падпісанне ў Кіеве парафіраванай дамовы аб дзяржаўнай мяжы, а таксама абмеркаванне пытанняў гандлю і супрацоўніцтва праваахоўных органаў. Між тым з адміністрацыі беларускага прэзідэнта актыўна ідзе санкцыяваная ўцечка інфармацыі аб тым, што Лукашэнка падчас размовы з Кучмам недвухсэнсоўна дасць зразумець пра вострае жаданне Беларусі аднавіць замарожаныя кантакты з заходнімі краінамі. Аналагічны ход (намёк на магчымы саюз Беларусі з Украінай) ужо аднойчы быў выкарыстаны Лукашэнкам, і вынікі непрыхаванага шантажу падзейнічалі тады на Крэмль. На гэты раз імкненне выклікаць рэўнасць Масквы падмацоўваецца пагрозлівымі заявамі Лукашэнкі пра здраду справе інтэграцыі некаторымі расійскімі палітыкамі, што падсоўваюць у асобе Чарнамырдзіна непрымальныя для Беларусі варыянты аб уваходжанні ў Расію ў выглядзе суб'екта федэрацыі, а таксама ярымі ворагамі яднання ў Крамлі, *«якія кладуцца касцьмі»*. Для паўнаты адчуванняў Лукашэнка ў чарговы раз узгадаў пра суверэнітэт Беларусі..

Карацей, беларускі бок хоча даць зразумець, што ў выпадку, калі Крэмль зробіць крок назад (а менавіта так назваў Лукашэнка статут Чубайса), то Мінск знойдзе чым адказаць.

Абмеркаванню варыянтаў адказу і быў прысвечаны экстраны прыезд у беларускую сталіцу Валерыя Сярова, які прывёз таксама чарговае пасланне Ельцына. У ім, па словах віцэ-прэм'ера, гаворыцца: *«Настаў час зверыць гадзіннікі»*. Лукашэнка паспрабаваў супакоіць публіку, заявіўшы, што статут пры любым надвор'і будзе падпісаны 23 траўня, але ёсць *«тры-чатыры, а фактычна два разыходжанні»*. Сяроў быў больш адкрытым, паведаміўшы, што гаворка ідзе аб разыходжаннях у пытаннях будучага дзяржаўнага ўладкавання, а таксама трансфармацыі органаў улады супольнасці ў органы саюза. Прынамсі, гэтыя пытанні і з'яўляюцца ключавымі ў статуце, і іх невырашанасць патыхае чарговым скандалам напярэдадні падпісання. Каб пазбегнуць знаёмага прэзідэнту Беларусі адчування «выпушчанага сыра», Ельцын і выклікае беларускага калегу 22 траўня ў Маскву, дзе падчас перамоваў адзін на адзін плануецца зняць спрэчнае пытанне. Аднак той факт, што канчаткова канцэпцыя статута будзе выпрацоўвацца толькі за дзень да падпісання, гаворыць сам за сябе.

**Яцэк ГАРБУЗОВІЧ**

## Смаргонскія беспрацоўныя ў Астрахань не хочуць

**Смаргонскі райаддзел па працы з моладдзю абвясціў да 10 траўня набор ахвотных паехаць на ўборку садавіны і гародніны ў Астраханскую вобласць Расіі. Запісалася 80 чалавек — пераважна маладыя беспрацоўныя. Аднак на працу ў Астрахань яны не паедуць.**

Рэч у тым, што расійскі бок у апошні момант змяніў свае ўмовы. Спачатку абяцалася, што беларуская моладзь атрымае трохразовае бясплатнае харчаванне і можна будзе зарабіць у месяц да 500 тысяч расійскіх рублёў. Цяпер жа абвясцілі, што і за харчаваннне, і за праезд туды і назад трэба заплаціць са сваёй кішэні. У аддзеле па працы з моладдзю карэспандэнту СВАБОДЫ патлумачылі, што ў такім разе ўся справа не мае сэнсу: моладзь нічога не заробіць, бо дарога няблізкая. А ўмовы працы прапануюцца не асабліва выгадныя. У спёку (30–40 °С нават у цяню) за дзень трэба сабраць норму 300 кг памідораў, а за гэта дадуць 37 тысяч расійскіх рублёў.

Такая ж, як і ў Смаргоні, група была набраная ў Мінску, але мінчукі ў выніку таксама адмовіліся ад астраханскіх заробкаў. Смаргонцы спадзяюцца цяпер, што ўдасца пасляць беспрацоўную моладзь на лепшых умовах на ўборку вінаграду — у Адэскую вобласць Украіны.

**С.А.**

# Майскія канікулы на заводах скончыліся

**Учора, 12 траўня, пасля двухтыднёвых майскіх канікулаў пачалі працаваць прамысловыя прадпрыемствы аўтамабільнага і сельскагаспадарчага машынабудавання.**

Сярод іх такія гіганты, як МАЗ, Мінскі трактарны завод, «Гомсельмаш», Мінскі маторны завод. Гэтыя прадпрыемствы спыніліся яшчэ ў канцы красавіка, нягледзячы на тое, што тэхналагічны працэс на шэрагу вытворчасцяў мае бесперапынны характар. Па словах аднаго з кіраўнікоў незалежных прафсаюзаў Аляксандра Бухвостава, асноўная прычына вымушаных адпачынкаў — «дэфіцыт абаротных сродкаў». Акрамя таго, на пачатку траўня шмат выходных, якія ўскладняюць нармальную работу на прадпрыемствах з бесперапынным тэхналагічным працэсам. Многія работнікі атрымалі магчымасць папрацаваць на лецішчах.

Аляксандр Бухвостаў падкрэсліў, што цяпер на заводах аўтасельгасмаша пачынаецца «сезон працы». Перад уборкай ураджаю з'яўляецца попыт пераважна на запчасткі для сельскагаспадарчых машын.

Радасныя вясновыя канікулы, аднак, не ратуюць ад сумнай рэальнасці ў галіне. Так, у 1996 годзе падзенне вытворчасці на Мінскім аўтамабільным заводзе склала 17,5%. На пачатак 1997 года доўг гэтага прадпрыемства бюджэту складаў 260 мільярдаў рублёў, Фонду сацыяльнай абароны насельніцтва — 160 мільярдаў. Сярэдняя зарплата работнікаў аўтасельгасмаша складае 2 мільёны 200 тысяч рублёў.

**Мікола ВАЙТОВІЧ**

# Беларускі Ford стартуе ў ліпені

**На прэс-канферэнцыі, прымеркаванай да Чацвёртага міжнароднага аўтасалона ММА'97, які праходзіў у Мінску на мінулым тыдні, прадстаўнік кампаніі *Ford* паведаміў, што бізнес фірмы ў Беларусі развіваецца «па плане».**

Запуск канвеера па зборцы аўтамабіляў *Ford* у пасёлку Абчак пад Мінскам запланаваны на 30 ліпеня 1997 г. Будзе наладжаны выпуск машын дзвюх марак — легкавіка *Escort* і мікрааўтобуса *Transit*. У першы ж год работы завода плануецца «выдаць» 6 тысячаў аўтамабіляў. У наступныя гады аб'ёмы выпуску будуць нарошчвацца або, наадварот, скарачацца — у залежнасці ад попыту. На сённяшні дзень, як паказваюць праведзеныя кампаніяй даследаванні, найбольш папулярныя на беларускім рынку легкавыя мадэлі *Mondeo* і *Escort*.

**Вераніка СТРОЕВА**

# Свой алей павінен быць смачнейшы

**Беларуская асацыяцыя перапрацоўшчыкаў і вытворцаў маслатлушчавай прадукцыі абяцае, што неўзабаве нам ужо не давядзецца смажыць нашыя традыцыйныя дранікі на замежным алеі.**

У нядаўна створаную асацыяцыю ўвайшлі Гомельскі тлушчакамбінат, Мінскі маргарынавы завод, Бабруйскі завод раслінных алеяў, канцэрн «Белхарчаграпрам» і інш. Кіраўнік асацыяцыі Ю.Чытаеў (дырэктар Гомельскага тлушчакамбіната) сцвярджае, што Беларусь мае ўсе магчымасці, каб поўнасцю забяспечыць сябе раслінным алеем высокай якасці не толькі для харчовых, але і тэхнічных мэтаў. Беларускі сланечнік збіраюцца вырошчваць у Гомельскай, Гродзенскай, Брэсцкай і на поўдні Мінскай і Магілёўскай абласцей. Пакуль жа Беларусь задавальняе свае патрэбы ў сланечнікавым алеі за кошт імпарту, на што ідуць вялікія валютныя сродкі.

**Уладзімір ВАЛЕЎСКІ**

# З адваката робяць пешку

## *Прэзідэнцкі дэкрэт № 12 каментуе вядомы адвакат Гары Паганяйла*

**— Спадар Паганяйла, як бы вы ацанілі сістэму юрыдычнай дапамогі, якая існавала ў Беларусі да падпісання дэкрэта № 12?**

— У 1993 годзе ў нас быў прыняты закон аб адвакатуры, які пашырыў правы і магчымасці адвакатаў у абароне грамадзян. Мы былі яшчэ далёкія ад заходніх стандартаў, і ўсё ж за гэтыя некалькі гадоў было шмат зроблена. Ва ўсякім разе, адвакацкая дапамога стала фактарам грамадскага жыцця. Адначасова ішло ўдасканаленне працэсуальнага заканадаўства. Гэта таксама спрыяла нашаму набліжэнню да юрыдычнай практыкі дэмакратычных краін. З адказнасцю заяўляю, што дэкрэтам № 12 гэты працэс спынены, і мы ў адзін момант апынуліся амаль што ў сталінскіх часах. Па сутнасці, гэтым дэкрэтам аднаўляецца савецкая сістэма адвакатуры. Пасля таго, як з адваката зробяць паслухмяную куклу, апраўдальныя прысуды стануць у нас выключна рэдкай з'явай.

**— Колькі цяпер у Беларусі працуе адвакатаў і ці адпавядае гэтая лічба патрэбам грамадства?**

— Па маіх дадзеных, не больш за 1.000 чалавек. Што ж тычыцца патрэбаў грамадства, то гэта складанае пытанне. Свабоднаму грамадству не хопіць і некалькіх тысячаў адвакатаў, а ва ўмовах дыктатуры будзе досыць некалькіх соцень.

Згодна з законам 1993 года, членства ў калегіі адвакатаў не было абавязковай умовай для нашай прафесійнай дзейнасці. І хаця большасць адвакатаў былі аб'яднаныя ў калегіі, але хапала і прыватнікаў-адзіночак. Канкурэнцыя паміж намі забяспечвала якасць паслугаў, у чым зацікаўленае грамадства. Цяпер усіх зноў зганяюць у адзін калгас пад кіраўніцтвам аднаго пастуха. Ліцэнзія будзе выдавацца толькі на пяць гадоў. Праз кожныя пяць гадоў давядзецца даказваць сваю лаяльнасць уладзе, што для адвакатаў, якія займаюцца абаронай палітычных, стане вельмі праблематычна. Я ўжо не кажу пра захады супраць былых чыноўнікаў, якія атрымалі ліцэнзіі і пайшлі працаваць адвакатамі. Дэкрэт — помста ім асабіста і напамінак усім будучым адступнікам пра магчымую кару. Акрамя таго, гэтым дэкрэтам надзвычайна павышаюцца паўнамоцтвы міністэрства юстыцыі. Яно будзе і караць, і кантраляваць, і аказваць міласці. Па сутнасці, аднаўляецца сістэма дзяржаўнага кантролю над адвакатурай.

**— І ўсё ж, на вашую думку, якія-небудзь змены неабходна было ўносіць у сістэму адвакатуры?**

— Безумоўна. Напрыклад, павысіць ролю самакіравання, удасканаліць адносіны паміж кіраўніцтвам юрыдычных фірмаў і шэраговымі супрацоўнікамі, а галоўнае — заканадаўча забяспечыць максімальна шырокую юрыдычную дапамогу грамадзяніну падчас разгляду справы. Тое, што некалькі гадоў таму адвакат быў допушчаны да затрыманага з першага дня арышту — гэта толькі гучыць прыгожа, але па-сутнасці мала што змяніла. У нас адвакат дагэтуль пазбаўлены магчымасці знаёміцца з абвінавачаннямі адразу пасля арышту, за любую дробязь яго можна адхіліць ад абароны. Дагэтуль адвакацкая дапамога застаецца вельмі слабой у параўнанні з паўнамоцтвамі следства. Над выпраўленнем гэтага дысбалансу і трэба было б папрацаваць заканадаўцам, але ім прыйдзецца цяпер прымаць новы закон аб адвакатуры на падставе 12-га дэкрэта, які робіць з адваката пешку ў судовым працэсе. Для грамадства адсутнасць незалежнай сістэмы юрыдычнай дапамогі будзе мець катастрафічныя наступствы. Прыйдзе час, калі дэкрэт «закране» любога грамадзяніна. Заўтра тыя ж чыноўнікі, якія сёння падтрымліваюць падобныя дакументы, адчуюць патрэбу ў абароне ад дзяржавы, бо многіх з іх сістэма перажуе і выплюне, але дапамагчы ім ужо не будзе каму.

**Алег ГРУЗДЗІЛОВІЧ**

# Нямецкія партнёры давяраюць «Дзецям Чарнобыля»

**Прадстаўнікі дабрачынных арганізацыяў зямлі Ніжняя Саксонія (ФРГ) Вольфганг Копф і Гюнтэр Верс прапануюць стварыць міжнародную камісію па праверцы дзейнасці фонду «Дзецям Чарнобыля».**

*«Грамадзяне ФРГ і ўрад нашай краіны вельмі занепакоеныя адносінамі беларускіх уладаў да дзейнасці дабрачынных недзяржаўных арганізацыяў і з недаверам ставяцца да прэтэнзіяў, якія выстаўляюцца ў іх адрас»*, — сказаў Вольфганг Копф, выканаўчы дырэктар фонду «Беларусь», падчас прэс-канферэнцыі, праведзенай у Мінску ў мінулую пятніцу. Па словах В.Копфа, нямецкія арганізацыі, якія знаходзяцца ў партнёрскіх адносінах з фондам «Дзецям Чарнобыля», не маюць да яго ніякіх прэтэнзій. *«Са свайго боку мы неаднаразова правяралі фонд і не знайшлі падставаў, каб сумнявацца ў сумленнасці яго кіраўнікоў»*, — заявіў сп.Копф. Ён паведаміў аб намеры нямецкага боку прапанаваць беларускім уладам кандыдатуры незалежных экспертаў, якія маглі б выканаць ролю трацейскага суда ў канфліктнай сітуацыі, што склалася вакол фонду «Дзеці Чарнобыля».

Што тычыцца рэзанансу гэтага канфлікту ў свеце, то прадстаўнікі Германіі назвалі яго разбуральным для іміджу Беларусі. *«Ясна, на якім палітычным фоне адбываюцца гэтыя падзеі»*, — сказаў журналістам Гюнтэр Верс. Ён параіў беларускай адміністрацыі яшчэ раз узважыць наступствы, да якіх прывядзе самаізаляцыя Беларусі ад Еўропы. Прадстаўнікі нямецкіх арганізацыяў, якія дапамагаюць беларускім дзецям, запэўнілі фонд «Дзецям Чарнобыля» ў сваёй салідарнасці і заклікалі беларускае кіраўніцтва спыніць пагрозы ў бок супрацоўнікаў фонду, а таксама даць гарантыі ініцыятыўным групам Германіі ў магчымасці надалей аказваць дапамогу ахвярам Чарнобыльскай аварыі. *«Той факт, што больш за 500 гуманітарных транспартаў цяпер заблакіраваныя на мытнях, мы ўспрымаем не як адмову людзей атрымліваць дапамогу, а як адмову ўрада Беларусі садзейнічаць атрыманню гэтай дапамогі»*, — заявілі прадстаўнікі нямецкіх дабрачынных арганізацый.

На прэс-канферэнцыі таксама быў абнародаваны ліст за подпісам кіраўнікоў фонду «Дзецям Чарнобыля», у якім аспрэчваюцца высновы камісіі Савета бяспекі, якая правярала дзейнасць фонду. *«Імкненне камісіі любой цаной выклікаць недавер да фонду і сфабрыкаваць супраць яго абвінавачванні, дае падставу лічыць вынікі праверкі неаб'ектыўнымі і не пагадзіцца з яе заключэннямі»*, — сцвярджаюць старшыня праўлення фонду Генадзь Грушавы і галоўны бухгалтар Наталля Гальцова. У якасці доказу «тэндэнцыйнасці» камісіі яны прыводзяць шэраг прыкладаў, калі правяраючыя наўмысна, на іх думку, сказілі відавочныя факты. Напрыклад, адзін з набытых фондам аўтамабіляў (*IFA-60*, 1989 г. выпуску) быў ацэнены правяральшчыкамі ў 71 тысячу нямецкіх марак, хаця на самой справе ён каштаваў фонду толькі адну тысячу *DM*. *«Зыходзячы з гэткай несапраўднай лічбы, камісія абвінаваціла фонд у нявыплаце пошліны і нанясенні дзяржаве стратаў у памеры 15 тысяч DM, што ўжо стала падставай для пракуратуры для ўзбуджэння крымінальнай справы»*, — сцвярджаецца ў лісце кіраўнікоў фонду.

**Алег ГРУЗДЗІЛОВІЧ**

# Помнік класіку літаратуры

**На радзіме класіка беларускай літаратуры XIX стагоддзя Яна Баршчэўскага ў вёсцы Мурагі Расонскага раёна Віцебскай вобласці будзе ўстаноўлены помнік пісьменніку.**

Цяпер вядуцца падрыхтоўчыя работы, пад ахову дзяржавы ўжо ўзятая тэрыторыя, якая некалі належала шляхціцу Завальню — галоўнаму персанажу навел Яна Баршчэўскага. У кнізе фантастычных апавяданняў «Шляхціц Завальня» Янам Баршчэўскім адлюстраваны побыт беларускай засцянковай шляхты, сцвярджаецца народная мараль, арганічна пераплятаюцца традыцыйныя паганскія ўяўленні з хрысціянскімі вераваннямі.

Мяркуецца, што на гранітным помніку з партрэтам Яна Баршчэўскага будзе выбіты факсімільны подпіс пісьменніка і ягоныя словы: *«Мае самотныя думкі заўсёды вяртаюцца ў гэты край»*.

*БелаПАН*

КАДРЫ

# Дапамажы, Божа!



# ФПГ: пока только с Россией

Некоторые промышленники видят в создании финансово-промышленных групп (ФПГ) единственный шанс, чтобы сохранить белорусскую экономику и дать ей стимул к развитию. Однако в Беларуси до сих пор нет национальных ФПГ и в ближайшее время не предвидится. Существуют лишь ФПГ, организованные совместно с Россией; иначе говоря, некоторые белорусские предприятия входят в состав российских ФПГ.

### Суть идеи

Под финансово-промышленной группой понимается объединение финансового (банковского), промышленного и торгового капиталов. Чаще всего ФПГ представляют собой по форме совокупность акционерных обществ, которые находятся под стратегическим управлением центральной компании, контролирующей дочерние как за счет пакетов акций, так и за счет личного участия своих менеджеров в управлении. Последнее означает, что одни и те же лица обычно занимают руководящие посты в материнских и дочерних компаниях и банках.

Для большинства людей более привычно понятие так называемой транснациональной корпорации (ТНК), которые составляют ядро современной мировой экономики и по своей экономической мощи не уступают потенциалу многих отдельно взятых стран. Под транснациональными корпорациями фактически понимаются ФПГ, предприятия которых расположены в различных странах. В России, первой из стран СНГ занявшейся созданием ФПГ, есть еще понятие межгосударственной (международной) ФПГ, которой считается экономическая структура на основе межправительственных соглашений.

Транснациональные корпорации стали появляться в мире с развитием международной торговли, но пик их развития пришелся на вторую половину XX века. Причиной возникновения таких корпораций и групп стала необходимость привлечения крупного финансового капитала для дальнейшего развития компаний — повышения их конкурентоспособности в мировом масштабе, освоения новых технологий и выхода на международные рынки. Так, например, конкуренция потребовала от компаний переноса производства ближе к рынкам сбыта, а также в страны с дешевой рабочей силой. (Наглядный пример — строительство завода *Ford* под Минском.) По сравнению с обычными компаниями, ФПГ и ТНК в состоянии финансировать постоянно растущие расходы на научные исследования, разработку и совершенствование новых технологий, более приспособлены к работе на зарубежных рынках. Важным является и такой фактор, как экономия на крупных масштабах производства: делать больше — всегда дешевле.

Примеров таких компаний можно привести множество. (Правда, многие из них представляют собой скорее не финансово-промышленные, а промышленно-финансовые группы.) Среди групп, сформированных вокруг банков, можно назвать немецкий «Дойче банк», японские «Мицуи», «Мицубиси», американские «Ситикорп» и т.п. Лидерство по количеству и по объемам средств, аккумулируемых подобными структурами, занимают Япония, США, а также европейские страны. Хотя в последнее время зачастую уже трудно установить «национальную принадлежность» некоторых ТНК.

### Спасение промышленности по-российски

Конкурировать с подобными международными корпорациями способны только аналогичные структуры. И в России была сделана логичная попытка создания финансово-промышленных групп.

В конце 1993 года вышел указ президента РФ «О создании финансово-промышленных групп в Российской Федерации», который положил начало этому процессу. Вслед за ним был принят еще ряд документов, которые регламентировали создание подобных объединений. Планируется, что группы станут своеобразными «точками роста», которые вытянут за собой и всю остальную экономику. В будущем ожидается появление 10–20 наиболее мощных ФПГ и около 100 менее крупных корпораций. В результате в России сейчас существует более 30 официально зарегистрированных финансово-промышленных групп (правда, многие пока только на бумаге).

Наиболее серьезно выглядят ФПГ (некоторые из них, кстати, не зарегистрированы), созданные крупнейшими банками России не без помощи государства. Российские банки активно участвовали в приватизационном процессе, скупая акции предприятий как за приватизационные чеки, так и за деньги. В результате уже сейчас можно говорить о нескольких центрах концентрации капитала. Прежде всего это структуры банка «Менатеп» (группа «Роспром»), «Онэксимбанка» (группа «Интеррос»), «Инкомбанка», банка «Альфа», «Российского кредита» и других. Среди подобных структур наиболее мощной является группа «Онэксимбанка», банковские активы которой превышают 26 трлн. российских рублей. Крупнейшие ФПГ включают в себя предприятия сырьевых отраслей, что и неудивительно, так как именно этот сектор в России сейчас является наиболее благополучным и позволяет получать достаточно высокие прибыли, что и привлекает финансовый капитал.

Некоторые ФПГ формировались промышленными корпорациями, которые сами организовали крупные и мощные банки — к их числу можно отнести такие корпорации, как Газпром (известный всем по своей рекламе банк «Империал», «Газпромбанк»), ЛУКойл и другие.

### Для ФПГ нужно другое государство

Существуют идеи создания ФПГ на базе промышленных предприятий и в Беларуси, однако в реальные государственные планы они не оформились. Создание самостоятельных белорусских ФПГ пока не предвидится: создаются лишь структуры, совместные с Россией, которая видит в них один из важнейших путей экономической интеграции.

Сейчас белорусские предприятия входят в такие российские ФПГ, как «Нижегородские автомобили», «Точность». Планируется также участие наших предприятий в группах «Вымпел» (создание систем и средств противоракетной и противокосмической обороны, телекоммуникаций и связи, с белорусской стороны — Гомельский радиозавод, гомельские конструкторские бюро «Луч» и системного программирования); «Формаш» (создание и производство оборудования для выпуска химволокон и нитей и т.п.; с белорусской стороны — Гродненское и Светлогорское ПО «Химволокно»); «Планар» (создание специализированного оборудования для производства изделий электронной техники, от нас — «Планар» и «Белпромстройбанк»), а также «Дизельное машиностроение».

Недавно палата представителей ратифицировала два межправительственных соглашения, касающихся российско-белорусских финансово-промышленных групп: Соглашение о создании транснациональной финансово-промышленной группы по обеспечению эксплуатации и ремонта авиационной техники гражданской авиации государств-участников СНГ и Соглашение о создании и деятельности международной финансово-промышленной группы «Гранит». В первую группу от Беларуси вошли аэропорты Минска и Гомеля, компании «Белавиа» и «Техавиасервис», ФПГ остается открытой и для других предприятий Беларуси. Предполагается, что создание новой структуры поможет авиакомпаниям стран СНГ конкурировать с западными фирмами. В состав «Гранита» войдут научно-производственное объединение «Агат», Борисовский ремонтный завод техники ПВО и другие белорусские предприятия. Основной целью работы этой ФПГ будут усовершенствование и создание систем ПВО.

О государственных планах создания чисто белорусских, национальных ФПГ пока не слышно. Противники говорят о невозможности создания у нас вертикально интегрированных групп (то есть включающих предприятия, выполняющие определенную часть полного технологического процесса — от добычи и переработки сырья до выпуска конечного продукта), так как белорусские предприятия представляют собой лишь часть такой цепочки, многие звенья которой находятся в России или других странах СНГ.

Тем не менее в мировой практике существуют горизонтально интегрированные группы, которые состоят из предприятий одной отрасли, находящихся на одной стадии технологического процесса. И создание подобных групп в Беларуси было бы вполне реальным. Однако этому мешают несколько существенных и взаимосвязанных проблем.

Прежде всего, довольно трудно выбрать те отрасли, на базе которых целесообразно создавать ФПГ. В нормальной экономике эту функцию выполняет рынок — одни предприятия становятся банкротами, другие выживают, но в нашей экономике подобный путь нереален. Очевидно, придется ориентироваться на развитие традиционных отраслей — тракторного и сельскохозяйственного машиностроения, грузового автомобилестроения, электроники, станкостроения и т.п.

Существенную проблему представляет собой отсутствие крупных финансовых ресурсов в Беларуси и неразвитость финансового сектора. В России наиболее мощные структуры создаются при банках, которые стали крупнейшими финансовыми центрами и которые в состоянии реформировать бывшие государственные предприятия и сделать их конкурентоспособными в условиях мирового рынка. В Беларуси же по причине порочной государственной политики таких финансовых китов просто не существует. Само же государство вряд ли сможет оказаться эффективным собственником и управляющим подобных групп. Как показывает мировой опыт (например, тех же «азиатских тигров»), лишь тесное сотрудничество государства с усиливающимся национальным частным капиталом способно привести к успеху. С другой стороны, некоторые отрасли просто необходимо продавать иностранным инвесторам или привлекать их в качестве совладельцев. Так, большинство «тигров» развивалось как раз за счет иностранных инвестиций. Однако нынешнее правительство Беларуси не способно поддерживать стабильные деловые отношения ни с кем, кроме России. Но в самой России явно не хватает финансовых средств: из 40 запланированных межгосударственных ФПГ пока эффективно работают лишь две.

Так что при «рыночном социализме» белорусские ФПГ остаются нужной, экономически целесообразной, но недостижимой мечтой.

**Алесь САДОВСКИЙ**

*Литва*

# Трудности есть, но хозяин не плачет

В Литве, как известно, земля возвращена в собственность прежним хозяевам или их наследникам. В этом заключается суть тамошней аграрной реформы.

Никаких иных целей ни литовские власти, ни народ перед собой и не ставили. Только эту — возвратить незаконно отнятую у людей собственность, в полной мере восстановить их попранные прежней незаконной властью права. И, как показала жизнь, такой подход оказался самым оптимальным.

Подтверждением тому может служить традиционная выставка «Агробалт-97», состоявшаяся в Вильнюсе 6–9 мая. Продемонстрированные товары-образцы перерабатывающей промышленности, новые мирового уровня технологии, находящие все более широкое применение в сельском хозяйстве, показывают, что в Литве практически созданы предпосылки для роста аграрной экономики на рыночной основе.

Правда, падение абсолютных объемов производства было значительным. Но, что примечательно, оно вполне сопоставимо с белорусскими показателями, хотя у нас полностью сохранена колхозная система.

Поэтому утверждение о том, что белорусы поступили мудро, сохранив свои хозяйства в первозданном социалистическом виде, а литовцы оплошали, «развалив» колхозы, у самих литовцев вызывает ироническую улыбку. Как заявила вице-министр сельского хозяйства г-жа Карлаускене, никакого «развала» не было. Ведь никто не уничтожал основные фонды, техника перешла из колхозов в частные хозяйства, крестьяне как трудились, так и продолжают трудиться на земле. Снижение объемов производства произошло не столько по причине реформы, сколько потому, что сузился рынок. Но это обусловлено макроэкономическими и политическими причинами, прямого отношения к сельскому хозяйству не имеющими.

Колхозы всего-навсего самораспустились, но процесс определялся экономической целесообразностью. Исчезли орденоносцы-гиганты, а на базе их структурных специализированных подразделений образовались хозяйства нового типа. Литовцы называют их общинами, но при желании их можно считать и колхозами, если под последними понимать нормальные кооперативы. Единственное отличие от советских колхозов заключается в том, что хозяйствуют они не на государственной земле, а на земле, арендованной у собственника (у юридических лиц отсутствует право собственности на землю).

Кстати, прежним владельцам возвращены даже принадлежавшие им леса. Однако государство решило сохранить контроль за их использованием: хозяин должен осуществлять уход за лесом, а всякие вырубки требуют согласования с государственным чиновником — лесничим. И, конечно же, собственник не допустит сплошной вырубки своего леса, как это практикуется у нас, где большинство лесов принадлежит казне в лице администрации президента.

Разумеется, Министерство сельского и лесного хозяйства Литвы, курирующее также рыбную отрасль, не контролирует хозяйственную деятельность предприятий и не устанавливает плановых заданий. Что касается, например, рыболовства, то здесь требуется дипломатическая работа — переговоры с европейскими организациями об увеличении для Литвы квоты на лов трески и сельди.

Помимо кооперативов, в Литве сохраняются личные подсобные хозяйства (средний размер земельного участка 2—3 га), производящие значительную часть сельхозпродукции, особенно молока, но экономических перспектив не имеющие в силу своей микроскопичности. Как здесь считают, они являются пережитком бывшей системы и в скором времени сами отомрут. Но не ранее, чем исчерпают свои социальные возможности.

Личным подсобным хозяйством государство не чинит никаких препятствий, предоставляет ряд финансовых льгот, но основные приоритеты отдает семейным хозяйствам земледельцев-собственников. Эти хозяйства находятся в стадии становления, их средний размер не превышает 10 га, но они получают львиную долю государственной поддержки. Конечно, ресурсы для этого не столь велики, как хотелось бы, но и поддержка оказывается тем, кто лучше всех хозяйствует.

Система поддержки также изменяется со временем, но она в достаточной мере продумана, чтобы до минимума свести возможности «кормления» чиновников за счет средств, выделяемых крестьянам. Так, землевладельцу, который приобрел первый новый комбайн или трактор, минсельхоз в обязательном порядке компенсирует значительную часть его стоимости. Аналогичные меры применяются при покупке племенного скота. Таким образом, предоставление финансовой помощи обусловлено фактом уже свершившейся покупки и носит обязательный характер. А крестьянин, который на эти цели затрачивает и значительные собственные средства, подходит к покупке вполне ответственно.

Опыт Литвы позволяет развеять и некоторые другие мифы, характерные для белорусского общественного мнения. Один из мифов состоит в том, что частная собственность на землю приводит к спекуляции земельными участками. Землю в Литве страсне можно свободно продать, но собственники не спешат это делать, учитывая множество факторов, не только экономических, которые обязательно проявятся в будущем. Поэтому цена 1 га сельхозугодий колеблется в пределах 1,4–1,7 тыс. литов (1 лит равен 1/4 доллара США).

И, как здесь считают, главное, что может дать земля, — это возможность строить жизнь по собственному усмотрению. Прежде всего ликвидировать деревню, которая существовала как жилая зона на территории животноводческих комплексов, и возвратиться к хуторскому типу поселений. На иной, естественно, социально-экономической и технической основе.

Государство намерено развивать инфраструктуру на селе, но больше всего в таких капитальных вложениях заинтересованы сами землевладельцы.

Что касается статистики, то, как нам сообщили в минсельхозе Литвы, потребление мяса за эти годы сократилось и теперь оно составляет 50 кг в год на душу населения. Но это нормальное мясо, а не прежнее условное, которое во многом «росло» за счет коэффициентов, позволяющих считать мясом «рога и копыта». В этом легко убедиться, посетив любой литовский магазин: продуктов изобилие, а цены ниже наших.

Агроэкономика Литвы в ближайшее время будет развиваться. Как здесь считают, выгоды от этого могла бы получить и Беларусь — в первую очередь предприятия, производящие агротехнику и другую необходимую для сельского хозяйства продукцию.

**Константин СКУРАТОВИЧ**

